# НАВІНКІ

27 сакавіка - 3 красавіка 2003 №8(87) Кошт свабодны



НАВІНКІ TV

Праграма тэлебачаньня 31 сакавіка - 6 красавіка

# Фаўст XIX ст.

DUBYA OIL
WE WILL DOMINATE
DOLLARS
23,070,710,000
CASUALTIES
7,064,192

Лябедзька глядзеў у рот прэзыдэнту

Падрабязнасьці на **стар.3**

***Калябарацыя not dead!***

*Рэдактар газэты Згода Аляксандар Здвіжкоў-Уорхал рыхтуецца да сустрэчы амэрыканскіх вызвольнікаў. Фота-інтэрвію на стар.4*

Нязваны госьць горш за Лукойл.

Расьследаваньне на **стар. 6,11**



**Прэзыдэнт ЗША вачыма амэрыканцаў**

Forest Bush

**стар.16**

# «Людзі гінуць за бэнзын...»

Пагоня за «чорным золатам», нібыта спакуса Мэфістофэля, зводзіць шасьцяронкі ў мозгах моцных гэтага сьвету.

**Між тым трэба задумацца, як жа вырвацца з кола гэтага нафтавага шабашу? Адказ напрошваецца сам сабой – альтэрнатыўныя віды паліва і энэргіі. Чалавецтву ўжо даўно хапае ізьвілінаў у мозгах, каб вынайсьці нешта больш таннае і менш крывавае за нафту. Прыгадайма хаця б ужо празаічныя электрамабілі, вадародныя рухавікі або энэргію сонечных батарэяў. Газэта *Навінкі* неяк ужо пісала пра аўтамабіль, які выкарыстоўвае сілу сьціснутага паветра. У такім разе, энэргію можна чэрпаць літаральна з паветра... Аднак на гэтых хваравлівых летуценьнях шызанутых пацыфістаў і эколягаў ставіць тлусты крыж нафтавае лобі. Бо кожнаму зразумела, што разам з нафтай і крывёй ліецца бабло. І чым больш нафты й крывякі, тым больш будзе сродкаў на «ліквідацыю гуманітарнай катастрофы»...**


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 27.03.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2383

# Адсасем за трыццаць бак$аў?

## альбо як прага да грантаў ператварае Беларусь у Ірак




***Беларуская апазыцыя зьбіраецца адправіць у Ірак на вайну з Садамам батальён валанцёраў. Магчыма менавіта ім пашасьціць захапіць крывавага дыктатара ў палон***

**«Увечары 20 сакавіка, без афіцыйнай санкцыі Рады Бясьпекі ААН, войскі амэрыкана-брытанскіх захопнікаў вераломна ўварваліся ў Арабскую Рэспубліку Ірак...»**

Можна не сумнявацца, што прыкладна гэткія словы арабскага Левітана пачулі з громкагаварыцеляў мільёны жыхароў гэтай краіны, калі зьбіраліся класьціся спаць. 21 сакавіка, а 5.30 раніцы тэлегледачы плянэты ўбачылі першыя зялёныя і мутныя кадры руху 3-й амэрыканскай пяхотнай дывізіі па пясках паўднёвай Мэсапатаміі. Пачалася вайна, якую Буш з Блэрам ахрысьцілі «Свабодай Іраку» (Freedom Iraq). Свабода свабодай, а па ўсім сьвеце, у тым ліку ў ЗША і Вялікабрытаніі, дэбют апэрацыі па вызваленьні нафтавых скважынаў ад Хусэйна, Хусэйна – ад улады, а тысяч іракцаў – ад уласных цялесных абалонак, быў адразу сустрэты шматтысячнымі дэманстрацыямі пратэсту грамадзян.

Зь пятніцы не сьціхаюць антываенныя бунты і ў Беларусі. Спэцыфіка апошніх у тым, што ролю і функцыю мільённых разьюшаных натоўпаў у нас, у адпаведнасьці з заканадаўствам па правязеньні масавых мерапрыемстваў, выконвае выключна Прэзыдэнт краіны (калі, канешне, ня ўзгадваць несанкцыянаваны антываенны пікет каля амбасады ЗША ў Менску, арганізаваны анархістамі 24 сакавіка). Вядома, ёсьць і тыя, хто ня любіць гаранта канстытуцыі. Таму цікава ведаць, як ставіцца да іракскай вайны наша дэмакратычная апазыцыя? Шчыра кажучы, публічная рэакцыя айчынных змагароў за свабоду на пераход амэрыканскімі танкамі кувэйта-іракскай мяжы і руйнаваньне Багдаду пераўзышла ўсе чаканьні. Сваім падхалімствам у амаль аднагалоснай падтрымцы ракетна-бомбавай барацьбы за дэмакратыю, наша сутулая апазыцыя напэўна зьдзівіла самога Дзядзьку Сэма. Чаго хаця б варты «Адкрыты ліст да Джорджа Буша і ягоных асыстэнтаў» загадчыка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі, які дагэтуль чамусьці выдаваў сябе за ідэйнага ўнука Гандзі. Стыль і пафас твору наводзіць на літаратуразнаўчую гіпотэзу пра адраджэньне некалі папулярнага сярод беларускіх нацыяналістаў эпісталярнага жанру «ліст да кайзэра», 85-ыя ўгодкі нараджэньня якога мы адсьвяткавалі 25 сакавіка.

*«Я хачу запэўніць Вас [Буша], што Вашую рашучасьць абараняць чалавечую годнасьць і свабоду незалежна ад таго, дзе і кім яна парушаецца, падтрымлівае значна большая колькасьць людзей, чым гэта падаецца. Выступы палітыкаў, дэманстрацыі людзей, якія самі не перажылі дзяржаўнага гвалту і выкліканага ім пачуцьця бездапаможнасьці, можна патлумачыць чым заўгодна, але ня клопатам пра мір і бясьпеку. (...) Дзякуй Вам, спадар Прэзыдэнт, і вялікаму амэрыканскаму народу за абарону Свабоды ва ўсім сьвеце, і няхай дапаможа Вам Бог!»*

У такім прыкладна стылі выказаліся й іншыя пэрсанажы беларускай апазыцыйнай сцэны. Юны тарцюф Паша Севярынец («Малады Фронт») на гэтую тэму нават цытуе Рэйгана, маўляў, *«ёсьць рэчы, важнейшыя за мір»*. Больш паліткарэктны Анатоль Лябедзька (АГП) кажа, што *«дэмакратыя павінна мець магчымасьць абараняць свае прынцыпы»*, пры гэтым акуратна дадаючы, што прынцыпова супраць вайны (а хто, прабачце, прынцыпова за?). Прыблізна тое самае ґавораць сацыял-дэмакраты, сярод якіх напавал паражае Анатоль Сідарэвіч, які відаць з пазыцыяў сацыяльнага прагрэсу і ґуманізму бачыць у вайне супраць Іраку добрую падставу для аб'яднаньня хрысьціянскага сьвету супраць *«напору ісламскай цывілізацыі»* (!) (*Наша Ніва*, 21.03.03). Але хітом апазыцыйнага мілітарызму трэба лічыць інтэрвію, якое 21 сакавіка даў Радыё Свабода старшыня г.зв. Цэнтру дасьледаваньняў будучыні Аляксандар Патупа. Паводле ваяўнічага «экспэрта», *«гэта не вайна, гэта праваабарончая апэрацыя часткі міжнароднай супольнасьці»*.

Відавочна, сваім лебязеньнем перад амэрыканцамі беларускія абаронцы правоў чалавека хочуць сказаць значна болей, чым проста паказаць сваю ідэалягічную блізкасьць з заакіянскім спонсарам. Для іх лёс Іраку – гэта прататып і мадэль будучага сцэнару для Беларусі. Як сказаў камандзір Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Аляксандар Сасноў, *«Лукашэнку прыйдзецца задумацца аб лёсе Садама Хусэйна»*.

Такім чынам, прытрымліваючыся такой лёгіцы, заўтрашняя Беларусь – гэта ўчорашні й сёньняшні Ірак. Апазыцыйным бонзам ужо летуценна бачыцца, як пасьля шматгадовага сьмерцяноснага эмбарга, у выніку якога гінуць мільёны дзяцей, праграмы ААН «калійная соль у замен на харчаваньне» і інспэкцыяў на конт «зброі масавага зьнішчэньня» з вайсковых базаў у Прыбалтыцы (Кувэйт) узьлятаюць амэрыканскія B-2, каб у пошуках бункеру Лукашэнкі бамбіць цэнтар Менску, як уздымаецца паўстаньне сялян-баптыстаў на Палесьсі (Курдыстане), куды потым спрабуюць увайсьці ўкраіна-грузіна-узбэцкія спэцназаўцы. Мроіцца, як асаджаны Лукашэнка пагражае экалягічнай катастрофай і падпальвае радовішчы торфу ў беларускіх балотах. Але галоўнае, што ім мроіцца, гэта «пэрыяд рэканструкцыі краіны», які разам з амэрыканскімі саляным канцэрнамі будуць праводзіць менавіта яны – мужныя барацьбіты за правы чалавека: Хадыка, Лябедзька, Патупа, Севярынец, Сідарэвіч і г.д. Чалавечыя ахвяры апэрацыі Freedom Belarus для дэмакратыі маюць мала значэньня. Бо як напісаў *Белорусский Рынок* (№10, 2003), *«Усё ж, якое страшнае слова – вайна. Але ці ня лепш жахлівы канец, чым жах без канца?»* ●

## ПарАды спэцыялІста

### Што павінен рабіць апазыцыянэр у выпадку нападу ЗША на Беларусь, раіць А.Здвіжкоў




Рыхтаваць хлеб-соль, каб сустракаць вызваліцеляў.




Сеяць паніку сярод абывацеляў.




Запальваць вогнішчы каля нерэнтабэльных прадпрыемстваў, каб іх зьнішчала амэрыканская авіяцыя.




Пазначаць кватэры відных лукашыстаў спэцыяльнымі знакамі.




Падаваць знакі амэрыканскім лётчыкам.




Калі вы будзеце кіравацца інструкцыямі, узнагарода вас абавязкова знойдзе.

# Ідзе вайна сьвяшчэнная

Тыя, хто думаюць, што Садам прайграе вайну, дзякуючы тэхналягічным наваротам, усялякім know how, памыляюцца. На баку англа-амэрыканскага экспэдыцыйнага корпусу змагаецца сам Усявышні.

Усё пачалося з таго моманту, калі сёньняшняму прэзыдэнту ЗША зьявіўся бог. Адбылося гэта прыкладна ў сярэдзіне 70-ых. Да гэтай знамянальнай падзеі Джордж падыйшоў законченым сіняком. Яшчэ ў Яльскім унівэрсытэце ён уступіў у студэнцкае брацтва Delta Calpa Eplison, сябры якога, як сьцьвярджае ангельскі Observer, практыкавалі садысцкія рытуалы. Сам Буш пазьней спавядаўся, што рабіў тое «аб чым мае дачкі не павінны ведаць». Атрымаўшы дыплём Джордж, дзякуючы бацькавай пратэкцыі (старэйшы Буш быў сэнатарам), пайшоў служыць у Нацыянальную Гвардыю і пазьбег службы ў Віетнаме. Пасьля дэмбеля бацькі ўладкавалі яго ў нафтавы бізнэс. Працы ў новага было ня шмат і ён звычайна праводзіў час не на нафтавых радовішчах, а ў кампаніі свайго корыша Клэя Джонсана. Клэй і Джордж былі, як падросшыя Бівіс і Батхэд: па трое сутак напралёт бухалі ў любімым кабаку Country Club і ганяліся за дзяўчынкамі. Джорджаў кузэн прызнаваўся, што да 40 гадоў сёньняшні прэзыдэнт быў сфармаваным алканаўтам.

І тут у ягоным жыцьці зьявілася бібліятэкарка Лаўра. Яна акруціла ханурыка, нарадзіла Джорджу дзьвюх дачок Барбару і Джэну, вылечыла ад алькагалізму і самае галоўнае – прымусіла цэлымі днямі штудзіраваць Біблію. Адзін раз Буш карпеў над супэркнігай цэлы тыдзень. На восьмы дзень яму зьявіўся Хрыстос. Буш паваліўся перад ім на калені і папрасіў дараваньня ўсіх грахоў і імем бацькі Бога паабяцаў быць ягонай вернай зброяй. З тых часоў Буша нібыта падмянілі. Ён стаў добрым сем'янінам і салідным палітыкам. Яго сябрамі, якія дарэчы башлялі яму на перадвыбарчую кампанію, былі цяпер не сабутэльнік з гольф-клюбу, а бізнэсмэны і рэлігійныя фундамэнталісты з Асамблеі Бога. Іхні лідэр і асабісты духоўны настаўнік Буша Карл Рув' заўсёды сьцьвярджаў, што Буш – пасланец неба, якому даручана выконваць на зямлі спэцсакральную місію. Калі Буша-малодшага абралі прэзыдэнтам, Рув' публічна заявіў, што тэхаскага губэрнатара ў Авальную залю Белага дому даставіў сам Усявышні. Амэрыканскі прэзыдэнт сам верыць у сваё прызначэньне і не хавае, што ягонае галоўнае заданьне – «прадвігаць у сьвеце біблейскае вучэньне». Кожнае паседжаньне кабінэту міністраў пачынаецца з малітвы, кожны вечар а 22 гадзіне, перад тым, як пайсьці ў ложак, уся прэзыдэнцкая сям'я чытае малітву. Такі глыбока рэлігійны чалавек,




як Буш, відавочна ня мог распачаць апэрацыю «Свабоду Іраку» без кансультацыі з Хрыстом.

Нам няма ніякага сэнсу аспрэчваць тэзыс аб сакральным паходжаньні сёньняшняй вайны. In God we trust! Трэба вызнаць, што англа-амэрыканскім інтэрвэнтам дапамагае сам бог-бацька, бог-сын і сьвяты дух. Што можа супрацьпаставіць такой сьвятой армадзе Садам? Ён вельмі позна зьвярнуўся да Алаха. Толькі нядаўна спэцыяльным загадам на нацыянальным сьцягу зьявіўся надпіс «Алах акбар».

Выхад: магчыма зьвярнуцца да больш дробных мясцовых бажкоў і ідалаў: Зараастра, Мардука і Астарт, Ваала. У адзіночку яны супраць бушаўскага патрона не пацягнуць, аднак кагалам яны, думаецца, змогуць праверыць фанеру. Адзін Мардук чаго варты: 4 вухі, 4 вока, дыхае вагнём.

У любым выпадку зразумела, што ўдзел у вайне паранармальных сілаў абяцае шмат цікавага. Ірацкая кампанія разам з ахвярамі, гуманітарнай катастрофай і іншымі прэлесьцямі прынясе з сабой містычныя звышрацыянальныя выпадкі, за якімі відавочна стаіць боскае правідзеньне ●

## Боскае ратаваньне радавога Раяна













## Таворыць Скаруліс...



**Агляд айчыннай аналітыкі беларускім палітэмігрантам са Швайцарыі і Бэльгіі**

Патрапіўся мне выпадкова ў рукі апошні 4 нумар нейкага штокварталька пад пратэнцыёзнай назвай *Аналитический бюлетень* за 2002 год. Я вам скажу – нашыя калюмністы ўсе проста адпачываюць перад аналітыкамі з «Белорусских фабрик мысли» – «Belarusian Think Tanks». Вось так! Ня йнакш – танкі беларускай думкі – гэт' вам ня танкі Хусэйна! Нашы танкі гразі не баяцца! Дзе танкі, там і рвецца!

Вось знакаміты танкіст, прэзыдэнт аналітычнага цэнтру «Стратэгія» Леанід Заіка падводзіць вынікі мінулага году: «2002: Уроки экономической политики»




Ну мы тут таксама ўсе памятаем, як бэльгійцаў пранесла ад няякаснай кока-колы. Трымае марку і А.Грыцанаў з *Белорусской газеты* 17 сакавіка




Гэта пра саюз Беларусі і Расеі. Грыцанаў лічыць, што дыстанцыя існуе на вышэйшым узроўні – беларускім чыноўнікам трэба будзе дужа панапружвацца ў наступстве аб'яднаньня, ад якога простыя людзі толькі выйграюць.

Поўны саркастычнага пэсымізму да прадстаўнікоў нашых чыноўных эліт Канстанцін Скуратовіч, які ў *Белорусском Рынке* разразіўся фэльетонам «О бедном Афоне замолвите слово». Знакаміты сантэхнік узгаданы з нагоды павышэньня жыльлёва-камунальных тарыфаў, але сапраўдныя героі фэльетону – усё тыя ж дзяржаўныя адміністратары, змагары за народны дабрабыт, якіх то праносіць ад ВУП,то вялацякуча скрыжоўваюць з вужакай і вожыкам:




Вось так,шаноўныя! Зьядуць і паганяла не спытаюць... Даўно я нешта *Саўбелії* ня бачыў – пачытаць бы ў Сулімавай пра карнавалы ды пра каханьне...

**Арсень Скаруліс,**
палітуцякач




# У аб'ектыве — Буш

Калі гавораць гарматы, музы маўчаць, катэгарычна сьцьвярджае стары як сьвет афарызм. Гісторыя сьведчыць, што гэтая амбіцыйная заява не працуе, прынамсі ў жанры графічнага мастацтва. Кожная вайна несьвядома нараджала свае арыгінальныя формы візуальнай палітычнай прапаганды. Першая сусьветная вайна падарыла чалавецтву фэномэн палітычнага плякату, у вогнішчы грамадзянскай вайны ў Расеі на сьвет зьявіліся рэвалюцыйныя коміксы «Вокны РосТА», культурная рэвалюцыя ў Кітаі падаравала сьвету хунвэйбінаўскія «Дацзыбао». Цяперашняя вайна ня стала выключэньнем з гэтай тэндэнцыі. Ваенная кампанія ў Мэсапатаміі падштурхнула простых амэрыканскіх людзей сесьці за стварэньне палітычных антыбушаўскіх каляжаў, якімі забіты сёньня ўвесь інтэрнэт. Хаця для аб'ектыўнасьці варта зазначыць, што сьцёбацца са прэзыдэнта Буша-малодшага амэрыканцы пачалі яшчэ падчас перадвыбарчай гонкі. Такога кшталту пераважна ананімная мастацкая дзейнасьць па дэсакралізацыі ўлады існуе, вядома ж, у кожнай краіне. Але за час свайго бытнасьці на пасадзе гаспадара Белага Дому ўжо столькі напартачыў, што па колькасьці сваіх геніяльна-абсурдных афарызмаў і опусаў здольны даць фору нават беларускаму прэзыдэнту. У амэрыканскі лексыкон увайшоў выраз «бушызм», а некаторыя аўтары, сярод якіх славуты сэміётык Умбэрта Эка, прамышляюць тым, што зьбіраюць і выдаюць на-гара прэзыдэнцкія ляпсусы. З пачаткам жа амэрыкана-іракскай вайны гэтая дзейнасьць атрымала яшчэ й яскрава акрэсьлены антываенны сэнс, бо дапамагаюць разьвянчаць арэол Буша як апостала дэмакратыі й абаронцы правоў чалавека ва ўсім сьвеце. Дык як жа бачыць вас амэрыканскі народ, містэр Джордж Дабл-Ю Буш-джуніёр?'



Буша-малога ў Штатах шмат хто лічыць усяго толькі марыянэткай у руках бацькі. Таму сынок намагаецца зрабіць усё магчымае, каб разбурыць гэты стэрэатып

Напрыклад, Буш-малодшы вырашыў заняцца самаадукацыяй і прайсьці курс «Прэзыдэнцтва для чайнікаў», а таксама «Міжнародная геапалітыка для абсалютных і канчатковых чайнікаў», складзеных адмыслова пад ягоны І(ra)Q.







Кіраўніку адзінай супэрдзяржавы давядзецца знайсьці адказы на такія нялёгкія пытаньні, як «Дык хто ж такі Пуцін?», «Што ўрэшце адбываецца ў Індыі і Пакістане?» і «Чаму баця ўторгся ў Ірак?»



Навука, сажам заўжды давалася Джорджу туга. Прыйшлося наймаць рэпэтытараў, бо ўзьніклі праблемы з чытаньнем. «Містэр Буш, вы трымаеце кніжку дагары нагамі».




Прэзыдэнту ЗША прыходзіцца нямала пацець і над чыстапісаньнем. «Эхэ-эхэ... Вы няправільна напісалі слова «Джордж».




Часам у Буша кульгае і арыфмэтыка. «Чатыры!»



На ўроках па пачатковай вайсковай падрыхтоўцы ў Буша яўна не ў парадку са страевухай.




А ў перапынках паміж занятакмі Буш не дурны добра адцягнуцца з прыяцелямі. «Удалы стаяк!» – «Клянуся, Лора, яна для мяне нічога ня значыць!»



Затое на полі бою гаспадар Белага Дому сапраўдны воін з задаткамі далёкабачнага стратэга. «Я гляджу, праціўнік добра замаскіраваўся». – «Здыміце крышкі зь лінзаў, містэр прэзыдэнт».

Аднак да рэальнага падвышэньня агульнаадукацыйнага ўзроўню яшчэ далёка. «О, матка боска, ён яшчэ больш тупы, чым я сабе думаў».



"Oh shit, he is even dumber than I thought"



Вядома ж, такое інтэнсіўнае навучаньне адбірае шмат сілаў. Часам проста не хапае часу, каб заняцца сур'ёзнымі дзяржаўнымі справамі. «Містэр прэзыдэнт, вы сьпіце прама на дырэктыве Рады Бясьпекі ААН, якая не рэкамэндуе ваеннае ўмяшальніцтва ў справы Іраку.

**Меркаваньне амэрыканскага народу наконт прэзыдэнта ЗША можа не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі!**